# Праваабарончы веснік

*травень 2011*

**Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь**


# ЖОРСТКІЯ ПРЫСУДЫ ЛІДЭРАМ АПАЗІЦЫІ

*Суд Ленінскага раёну Менска 14 траўня вынес прысуд былому кандыдату ў прэзідэнты Андрэю Саннікаву. Ён атрымаў 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. 26 траўня гэтым жа судом былі асуджаны былыя кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Дзмітрый Ус. Яны атрымалі 6 і 5 з паловай гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму адпаведна. Гэтыя кандыдаты ў прэзідэнты на мінулых выбарах былі абвінавачаныя ў арганізацыі масавых беспарадкаў у Менску 19.12.2010 г. (арт. 293 Крымінальнага кодэксу).*

*Колькасць асуджаных за ўдзел у маніфестацыі 19 снежня дасягнула 43 чалавек. З іх 30 знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі.*

*Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступіў з ацэнкай судовых працэсаў па крымінальных справах па падзеях 19 снежня 2010 г.*

**ВЫСНОВЫ:**

- Падзеі 19 снежня 2010 г. сталі вынікам правядзення несправядлівых, недэмакратычных выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія не былі прызнаны адпавядаючымі міжнародным стандартам у галіне свабодных выбараў, і якія суправаджаліся шматлікімі парушэннямі.

- Шэсце па праспекце Незалежнасці і мітынг на плошчы Незалежнасці насілі мірны характар, паколькі ўдзельнікі мелі мірныя намеры, скіраваныя на выказванне свайго меркавання і пратэсту ў сувязі з адбыўшыміся выбарамі.




*Андрэй Саннікаў пасля вынясення прысуду*

- Мітынг на Кастрычніцкай плошчы і шэсце па праезжай часцы пр. Незалежнасці, хаця і стварылі пэўныя нязручнасці для жыхароў гораду, тым не менш не ўяўлялі пагрозы грамадскаму парадку, жыццю і здароўю грамадзянаў.

- Паводзіны некаторых асобаў, якія прадпрынялі актыўныя дзеянні каля будынку Дома Ураду, насілі характар правапарушэнняў, аднак не спыняліся супрацоўнікамі міліцыі, не лакалізаваліся.

- Працягласць дадзеных супрацьпраўных дзеянняў, колькасць задзейнічаных у іх асобаў, памер нанесенай шкоды не дазваляюць казаць аб наяўнасці масавых беспарадкаў на пл. Незалежнасці і, адпаведна, пра ўдзел асобаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці, у масавых беспарадках.

- Дзеянні міліцыі па разгоне мірнага сходу на пл. Незалежнасці, насілі абсалютна непрапарцыйны характар і адзначыліся беспадстаўнай жорскасцю ў дычыненні да дэманстрантаў.

- Папярэдняе следства па падзеях 19 снежня 2010 г. суправаджалася сур'ёзнымі парушэннямі правоў чалавека, сярод якіх: парушэнне права на абарону, парушэнне прызумпцыі невінаватасці, выкарыстанне дзеянняў непрацэсуальнага характару, катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных відаў абыходжання, якія прыніжаюць чалавечую годнасць.

- Судовыя працэсы па справе насілі загадзя прадвызначаны характар і абвінаваўчы ўхіл.

- Дадзеныя судовыя працэсы яшчэ раз падкрэслілі поўную залежнасць судовай сістэмы ў Беларусі ад выканаўчай улады, а ціск і пазбаўленне ліцэнзій Міністэрствам юстыцыі шэрагу адвакатаў, што прымалі ўдзел у справе, сведчаць аб адсутнасці інстытута незалежнай адвакатуры.

- Дадзеныя абставіны сведчаць аб адсутнасці доступу асуджаных да справядлівага і незалежнага судовага разбіральніцтва.

- Характар правядзення папярэдняга следства і судоў па дадзеных крымінальных справах яскрава сведчыць аб іх палітычным характары.

Пры такіх абставінах Праваабарончы цэнтр "Вясна" заяўляе:

1. Вынесеныя прысуды па крымінальных справах па ч.ч.1, 2 арт. 293 і ч. 342 КК Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца незаконнымі і павінны быць адменены ці перагледжаны.

2. Усе асуджаныя па дадзеных крымінальных справах прызнаюцца намі палітычнымі вязнямі. Праваабарончы цэнтр "Вясна" патрабуе іх неадкладнага вызвалення.

У сувязі з завяршэннем папярэдняга следства і правядзеннем шэрагу судовых працэсаў па крымінальных справах, узбуджаных па падзеях на пл. Незалежнасці ў Мінску 19 снежня 2010 г., Праваабарончы цэнтр "Вясна" адзначае наступнае:




*Мікалай Статкевіч у судзе*

Па факту падзеяў на пл. Незалежнасці была ўзбуджаная крымінальная справа па ч.ч.1, 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі) Рэспублікі Беларусь у дачыненні да 61 чалавека. Пазней у дачыненні да 10 чалавек крымінальная справа была перакваліфікавана па ч.1 арт. 342 КК Рэспублікі Беларусь (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). Акрамя таго, у дачыненні да двух абвінавачаных была ўзбуджана крымінальная справа па арт. 370 КК Рэспублікі Беларусь (знявага дзяржаўных сімвалаў), у адноснах да аднаго з абвінавачаных – па арт. 382 КК (самавольнае прысваенне звання ці ўлады службовай асобы) і арт. 369 КК (абраза прадстаўніка ўлады). Акрамя таго, супрацоўнікамі міліцыі было затрымана звыш 700 асобаў, супраць якіх былі распачаты адміністрацыйныя працэ-

*Працяг на стар. 2*

# ПРАВААБАРОНЧАМУ ЦЭНТРУ "ВЯСНА" – 15 ГАДОЎ

*У час, калі ў Беларусі шалеюць палітычныя расправы над апанентамі існуючага рэжыму, праваабарончаму цэнтру "Вясна" спаўняецца пятнаццаць гадоў. Пра святкаванне праваабаронцам думаць у гэты час не выпадае, але азірнуцца на зробленае і акрэсліць арыенціры на бліжэйшую будучыню – магчыма. Гэта робіць старшыня і стваральнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі.*

Гісторыя праваабарончага цэнтру "Вясна" пачалася з тых драматычных падзеяў, якія адбыліся 15 гадоў таму. Сітуацыя вясной 1996 года была актыўнай і напружанай: беларускае грамадства супраціўлялася масштабным парушэнням Канстытуцыі, абмежаваннем грамадзкіх і палітычных свабод, якія пачаў ўсё актыўней дазваляць сабе малады на той час прэзідэнт. Лукашэнка пачаў відавочна закручваць гайкі дзеля таго, каб канчаткова падпарадкаваць сабе ўсе галіны ўлады і ўрэшце перапісаць канстытуцыю "пад сябе". І менавіта ягоныя рашучыя крокі напачатку былі звязаныя з разгонамі масавых акцый. Першы жорсткі разгон дэманстрацыі, ды не абы якой, а "Чарнобыльскага Шляху", прысвечанага трагічнай для беларусаў падзеі, аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адбыўся 26 красавіка 1996 года. Перад гэтым прайшла масавая акцыя 25 сакавіка, у гонар БНР, затым 2 красавіка, калі грамадзяне пратэставалі супраць заключэння саюзнай дамовы з Расіяй, на якую нечакана прыйшло шмат людзей. Але на Чарнобыльскі шлях сабралася яшчэ болей -- каля сарака тысяч грамадзян, уся плошча Коласа, абвешчаная месцам збору, была шчыльна запоўненая людзьмі.

Сама акцыя была добра аформленая, у чым бралі ўдзел грамадскі актыўныя мастакі з суполкі "Пагоня", было шмат сцягоў, харугваў, плакатаў. Дэманстранты сутыкнуліся з праблемамі, калі пачалі выходзіць на праспект, каб рухацца ў бок плошчы Перамогі. Адразу ж праспект быў перагароджаны некалькімі шэрагаў міліцыянтаў з дубінкамі і нават грузавымі і легкавымі аўтамабілямі. Адбылася вельмі жорсткая сутычка з дэманстрантамі. Хачу нагадаць, што нічога падобнага ў Беларусі не было з кастрычніка 1988 году, калі быў разагнаны мітынг каля Маскоўскіх могілак, прысвечаны Дзядам. З таго часу ніводная масавая акцыя ў Менску не была разагнаная ўладамі. І вось праз сем гадоў – жорсткае сутыкненне, у якім у тыя хвіліны былі збітыя дзесяткі людзей. Гэта адбывалася на маіх вачах. Памятаю, як мастак Аляксей Марачкін, які нёс абраз Чарнобыльскай Маці Божай, атрымаў удар у вока і ледзь не страціў зрок. Іншыя дэманстранты атрымалі ўдары дубінкамі,

*Працяг на стар. 2*

# ПРАВААБАРОНЧАМУ ЦЭНТРУ "ВЯСНА" – 15 ГАДОЎ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

былі разбітыя галовы, некаторыя атрымалі іншыя траўмы. Аднак людзей было так шмат, што міліцыя не была ў стане спыніць людскую плынь, людзі проста адсунулі гэтыя кардоны і пайшлі па праспекце далей. "Чарнобыльскі шлях" дайшоў да Нямігі і далей да Палацу спорта. Сутыкненні адбываліся таксама і на Нямізе.

Пасля акцыі міліцыя затрымала каля сотні яе ўдзельнікаў, была ўзбуджаная крымінальная справа, адразу былі арыштаваныя Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык. Мяне таксама выклікалі ў пракуратуру па гэтай справе ў якасці сведкі. У грамадстве быў пэўны шок, паколькі нічога падобнага не здаралася шмат гадоў. Таму ўзнікла пільная патрэба ў тэрміновым зборы інфармацыі: дзе хто сядзіць, хто дзе знаходзіцца, патрэбна было аказваць дапамогу арыштаваным, у першую чаргу сем'ям Хадыкі і Сіўчыка, самі яны ў зняволенні абвесцілі галадоўку. Менавіта тады на базе актывістаў Беларускага народнага фронту ўзнікла група дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій, якую я, будучы на той час сакратаром Управы Беларускага народнага фронту і ачоліў. Гэта было натуральным для мяне рашэннем, паколькі праблемы звязаныя з абаронай правоў чалавека заўсёды прысутнічалі ў маім жыцці. Я быў адным з заснавальнікаў першай праваабарончай беларускай арганізацыі "Мартыралог Беларусі", а затым, будучы дэпутатам Мінскага гарадскога савету, уваходзіў у склад гарадской камісіі па рэабілітацыі рэпрэсаваных у 30-я-50-я гады. Хаця на той час здавалася, што праца нашая па дапамозе новай хвалі рэпрэсаваных будзе часовай. Калі б тады нехта сказаў, што мы будзем працаваць 15 гадоў і што грамадска-палітычная сітуацыя не толькі не палепшыцца, але і істотна пагоршыцца па ўсіх пазіцыях: і ў заканадаўчым плане, і ў ціску на грамадства, і ў адносінах уладаў да грамадзянскай супольнасці – я ніколі б не паверыў у гэта.

На той час сем год адпрацаваўшы дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча я зрабіўся практычна прафесійным музейшчыкам, чалавекам, які бачыў сваё будучае жыццё ў беларускай культуры, у літаратуры, а не толькі ў грамадска-палітычнай сферы, як яно і склалася надалей.

Тым не менш, беларускаму грамадству быў кінуты выклік, найперш у мэтавым і паслядоўным пераследзе актывістаў грамадзянскай супольнасці. І гэты выклік быў прыняты. Мы пачалі збор сродкаў для дапамогі пацярпелым. Самае цікавае, што памятаецца дагэтуль, гэта тое, што дапамога збольшага была харчовай. Адзін з маіх добрых знаёмых выдзеліў два ці тры цэнтнеры харчоў (макаронаў, цукру, грэчкі, алею). На мікрааўтобусе харчы перавезлі ў музей Багдановіча і там, разам з калегамі, фасавалі ўсё гэта ў пакункі з эмблемай музею і перадавалі тым, хто быў збіты, ці сядзеў на сутках. Карацей, дапамагалі, чым маглі. Шмат харчоў перадалі сем'ям Сіўчыка і Хадыкі. Такім быў пачатак нашай "Вясны" і як бачна – пачатак сімвалічны. Зараз, на 25-годдзе Чарнобыля ізноў прагучала, што ў Беларусі ўсе гэтыя гады адбываецца Чарнобыль не толькі фізічны, датычны нашага здароўя, але і духоўны, датычны духоўнага здароўя беларусаў. Выразныя праявы гэтага духоўнага Чарнобыля мы атрымалі ад новай беларускай улады, якая ўмацоўвалася, мацярэла, тачыла зубы на маладыя дэмакратычныя парасткі, якія тады прабіліся на беларускай грамадскай глебе. Ад таго часу мы працягвалі сваю працу на валанцёрскіх пачатках, у вольны ад асноўнай працы час. Наўзабаве пачаліся новыя крымінальныя справы, напрыклад справа супраць паэта Славаміра Адамовіча, і мы аказвалі матэрыяльную дапамогу яго родным, калі ён сядзеў у СІЗА.

Дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій стала адной з нашых галоўных задач, якой мы і займаемся з тых часоў. Калі згадаць, хто быў першым у складзе нашай групы – магу назваць Галіну Вашчанку, Маю Кляшторную, дачку беларускага паэта Тодара Кляшторнага, рэпрэсаванага, як і яна сама, уласна я, некалькі чалавек з нашага музейнага калектыву, якія таксама дапамагалі нам.

Апроч матэрыяльнай дапамогі мы ад самага пачатку пачалі займацца зборам інфармацыі па рэпрасаваных. Я нагадаю, што пасля тых падзей выйшла кніжка, якая так і называлася "Мінская Вясна-96", дзе былі апісаныя падзеі Чарнобыльскага шляху-96, сабраныя факты рэпрэсій у дачыненні да ўдзельнікаў "Чарнобыльскага Шляху", змешчаны спіс рэпрасаваных. Інфармацыю даводзілася збіраць з розных крыніц, напрыклад з газеты "Свабода", якая часта змяшчала такія звесткі, так і непасрэдна ад саміх удзельнікаў акцыяў, якіх мы апытвалі пра тое, што з імі зрабілася. Хроніку парушэнняў правоў чалавека мы пачалі ствараць практычна ад самага пачатку сваёй дзейнасці, і ў розных варыянтах займаемся гэтым і зараз. Гэта важны накірунак нашай працы.

Дзейнасць, якой мы займаемся 15 год, складаная, цяжкая. Яна забірае шмат нервовай энергіі. Непроста ўвесь час займацца тымі праблемамі, якія ўзнікаюць у людзей у барацьбе за свае правы, але тым не менш, я маю вялікае маральнае задавальненне ад таго, што зроблена за паўтары дзесяткі гадоў у межах нашай арганізацыі, што зроблена "Вясной" у межах беларускага і міжнароднага праваабарончага руху. Нашая праца адзначаная некалькімі аўтарытэтнымі міжнароднымі прэміямі. За гэтыя 15 гадоў "Вясна" разраслася да рэспубліканскай арганізацыі, прадстаўніцтвы і актывісты якой ёсць практычна ва ўсіх вялікіх гарадах Беларусі. Ёсць задавальненне ад зробленага і ёсць вялікае незадавальненне ад таго, што невыкананая асноўная мэта стварэння нашай арганізацыі – у Беларусі працягваюць масава парушацца правы чалавека, Беларусь не далучылася да сям'і цывілізаваных краінаў. Гэтая мэта – бачыць Беларусь свабоднай, дэмакратычнай і прававой краінай, дзе б сапраўды шанаваліся правы чалавека, прымушае нас рухацца наперад. Пакуль гэтая мэта не будзе дасягнутая, мы будзем працаваць у гэтым накірунку і далей.



# ЖУРНАЛІСТ ДАМОГСЯ ПАКАРАННЯ ТУРЭМШЧЫКАЎ

Пракуратура Ленінскага раёна Магілёва прызнала парушэнні, якія былі дапушчаны падчас утрымання ў Магілёўскім ізалятары часовага ўтрымання журналіста БелаПАН Уладзіміра Лапцэвіча.

*Уладзімір Лапцэвіч*

Падчас праверкі было выяўлена, што У. Лапцэвіч утрымліваўся ў камеры з раней судзімай асобай. Гэта з'яўляецца парушэннем патрабаванняў п.1 арт.18.7 Працэсуальна-выканаўчага Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, які прадугледжвае асобнае ўтрыманне несудзімых грамадзян і асоб, якія маюць судзімасць.

За парушэнне, дапушчанае інспектарамі-дзяжурнымі Казаковым і Балсуном, кіраўніцтвам ізалятара былі ўжытыя меры матэрыяльнага ўздзеяння за недобрасумленныя адносіны да выканання службовых абавязкаў.

Журналіст адзначае, што пра парушэнне заканадаўства з боку супрацоўнікаў ізалятара даведаўся выпадкова: "Я даведаўся выпадкова, што забаронена паводле закону, каб судзімыя раней утрымліваліся з раней несудзімымі. Ніхто пра гэты момант не ведаў. Добра, што пракуратура прызнала парушэнне. Пачуцця помсты да супрацоўнікаў ізалятара ў мяне не было, аднак я хацеў, каб усё было па законе, - гаворыць журналіст, - У гэтым выпадку добра тое, што калі гэтая інфармацыя разыдзецца па інтэрнэце, то будзе карыснай для людзей, якія перыядычна сутыкаюцца з такой праблемай".

Уладзімір Лапцэвіч быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі падчас выканання прафесійных абавязкаў на Дзень Волі 25 сакавіка і асуджаны на сем сутак адміністрацыйнага арышту за нібыта ўчыненае ім дробнае хуліганства і непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі, пасля чаго быў змешчаны ў Магілёўскі ІЧУ для адбыцця пакарання.

*"Праваабарончая хроніка"*

# ЖОРСТКІЯ ПРЫСУДЫ ЛІДЭРАМ АПАЗІЦЫІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

сы па арт. 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь, больш за 600 з іх былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арышту тэрмінам да 15 сутак.

Крымінальная справа па арт. 293 (масавыя беспарадкі) была ўзбуджана ў першыню ў Беларусі. Судовай практыкі, якая б склалася, па дадзенай катэгорыі справаў у краіне няма.

У той жа час характар дзеянняў дэманстрантаў 19 снежня 2010 г. падчас шэсця ад плошчы Кастрычніцкай па праспекце Незалежнасці да плошчы Незалежнасці, па нашых ацэнках, не ўтрымлівае прыкметаў, неабходных для кваліфікацыі дадзеных дзеянняў як масавыя беспарадкі. Шэсце не суправаджалася пагромамі, падпаламі, гвалтам над асобай, знішчэннем маёмасці, узброеным супрацівам прадстаўнікам улады.

Па нашым меркаванні, шэсце і мітынг насілі мірны характар, паколькі яго ўдзельнікі першапачаткова мелі на мэце выказванне свайго пратэсту і меркавання ў сувязі з адбыўшыміся выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь мірным шляхам. Кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у сваіх публічных выступах у СМІ, а таксама на сустрэчах з выбаршчыкамі заклікалі грамадзянаў прыняць удзел у мірным сходзе, не выказваючы пры гэтым заклікаў да якіх-небудзь гвалтоўных дзеянняў.

Мірным быў таксама сход на пл. Незалежнасці. Пераважная большасць удзельнікаў сходу пераследвала мірныя мэты – выказванне свайго меркавання, пратэсту. Аднак частка ўдзельнікаў сходу прадпрыняла шэраг актыўных дзеянняў, якія насілі характар правапарушэння. Пры гэтым прадстаўнікі сілавых структураў, у вялікай колькасці сканцэнтраваныя на пл. Незалежнасці ў той дзень, не прадпрынялі ніякіх дзеянняў па спыненні супрацьпраўных дзеянняў і лакалізацыі асобаў, якія іх здзяйсняюць. Замест гэтага праз пэўны час сіламі спецпадраздзяленняў міліцыі і ўнутраных войск, з непрапарцыйным выкарыстаннем фізічнай сілы і спецсродкаў былі разагнаны ўсе грамадзяне, якія прымалі ўдзел у сходзе. Дзесяткі грамадзянаў атрымалі фізічныя пашкоджанні, у тым ліку і кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Саннікаў, В.Рымашэўскі, Р.Кастусёў. Збіццё прадстаўнікамі спецслужбаў кандыдата ў Прэзідэнты У.Някляева і ягоных прыхільнікаў на падыходах да плошчы наогул насіла заведама незаконны характар.

У сувязі з гэтым Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што масавых беспарадкаў 19 снежня 2010 г. у Мінску не было, і ўзбуджэнне, а затым і асуджэнне ўдзельнікаў дадзеных падзеяў па ч. 1, 2 арт. 293 КК Рэспублікі Беларусь з'яўляецца відавочна незаконным.

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.